Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусі

**выпуск 28 (41)**

**12–18 ліпеня 2021**

***Быць сумленным чалавекам, любіць сваю краіну і людзей, развіваць культуру і падтрымліваць найвышэйшыя каштоўнасці – гуманізм, узаемававагу, свабоду – не злачынства, а гонар. І мы ганарымся.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Вадзім Гулевіч, музыка і праграміст, праходзіць падазраваным па частцы 2 артыкула 289 КК – акт тэрарызма, пакаранне ад 8 да 20 гадоў пазбаўлення волі.**

**Іван Цітоў, хармайстар Нацыянальнага тэатра оперы і балета, быў вымушаны пакінуць тэатр і Беларусь. Ён хадзіў па горадзе з нацыянальнай сімволікай, за што спачатку яго пакаралі штрафам, а затым наогул пазбавілі права знаходзіцца ў Беларусі, паколькі ён грамадзянін Расіі.**



Фота: bolshoibelarus.by

**Мінюст праводзіць праверку дзейнасці Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вялікі масіў дакументаў за некалькі год арганізацыя мусіла падрыхтаваць за суткі. Такі ж запыт прыйшоў да Таварыства Беларускай Мовы.**

**14 ліпеня адбылісяператрусы і затрыманні ў шэрагу праваабарончых і іншых недзяржаўных арганізацый па ўсёй Беларусі. Сярод іх – Таварыства Беларускай Школы, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

**Барыс Пятровіч, паэт, пісьменнік, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, у яго кватэры таксама адбыўсяператрус.**



Фота: svaboda.org

**На юрыдычны адрас Беларускага ПЭН-цэнтра прыходзіў ГУБАЗіК, які меў пастанову наператрус, падпісаную генпракурорам РБ. Паколькі арганізацыя працуе ў дыстанцыйным рэжыме, па юрыдычным адрасе супрацоўнікаў ПЭНа не было. У іншай арганізацыі, якая мае той жа юрыдычны адрас, канфіскавалі ўсю тэхніку, а супрацоўнікі сталі сведкамі.**

## Затрыманыя 14 ліпеня:



Фота: Беларускае Радыё Рацыя

**Сяргей Сыс** – паэт, журналіст, праваабаронца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра (затрыманы ў межах крымінальнай справы, вызвалены ў той жа дзень)



Фота: Сяргей Грыц

**Алесь Бяляцкі** – праваабаронца, аўтар турэмнай літаратуры, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра (затрыманы ў межах крымінальнай справы)



Фота: Новы Час

**Алена Лапцёнак**, рэдактарка-выдавец кніг серыі «Турэмная літатратуру» (затрыманая ў межах крымінальнай справы, вызваленая 17 ліпеня)



**Алена (Лера) Сом** – паэтка, бард, грамадская актывістка (адпусцілі пасля допыту ў Следчым Камітэце)



Фота: ПЦ «Вясна»

**Віктар Сазонаў** – пісьменнік, сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў (падазраваны па крымінальнай справе; адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе)



Photo: Alexander Janetzko

**Святлану Алексіевіч** 14 ліпеня ў Берлінскім аэрапорце затрымалі падчас дагляду багажу, бо яна нібыта «мела пры сабе бомбу». Спадарыня алексіевіч збіралася ляцець ва Уроцлаў на імпрэзу з удзелам іншай нобелеўскай ляўрэаткі, польскай пісьменніцы Вольгі Такарчук, але праз затрымку прапусціла свой рэйс. У аэрапорце ёй не аказалі дапамогі, пакінуўшы адну пасярод ночы.

## 15 і 16 ліпеня працягваліся ператрусы і затрыманні сярод недзяржаўных арганізацый і незалежных медыя:



Фота: svaboda.org

**Алег Груздзіловіч, журналіст, аўтар дакументальнай кнігі пра выбух у мінскім метро ў 2011 годзе. Затрыманы, у яго канфіскавалі ўсю тэхніку.**



**Глеб Лабадзенка, паэт, грамадскі актывіст, журнаіліст. Ператрус і затрыманне. Вызвалены ў той жа дзень.**



**Ігар Ільяш, журналіст, аўтар (разам з Кацярынай Андрэевай) кнігі «Беларускі Данбас». Ператрус; затрыманы ў межах крымінальнай справы.**



**Алена Анісім, старшыня Таварыства Беларускай Мовы. Ператрус.**



**Яўген Меркіс, краязнаўца, папулярызатар беларускай культуры. Ператрус.**



**Павел Мажэйка, журналіст, дырэктар прасторы «Цэнтр гарадскога жыцця» ў Гродна. Ператрус; вызвалены пасля допыту.**



**16 ліпеня вынесеныя прысуды па справе студэнцтва.**
**Адзін абвінавачаны атрымаў 2 гады калоніі агульнага рэжыму,**
**11 астатніх – 2 гады 6 месяцаў.**
**Сярод іх Марыя Каленік – студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў,**
**Ксенія Сырамалот – студэнтка факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ, прэс-сакратарка «Задзіночання беларускіх студэнтаў», валанцёрка Праваабарончага цэнтра «Вясна», паэтка,**
**Яна Арабейка – студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, мастачка,**
**Кася Будзько – студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, мастачка.**



**Цімур Газізаў, арганізатар мерапрыемстваў, якого затрымалі на праглядзе анлайн-прэм'еры спектакля «Белы трус, чырвоны трус», 16 ліпеня ўвечары мусіў выйсці на волю пасля агулам 30 сутак арышту. Яго перавялі ў СІЗА на Валадарскага.**

**Справу выдавецтваў «Кнігазбор» і «Янушкевіч», студыі «Адліга», а таксама кнігараспаўсюдніка Алеся Яўдахі закрытыя.**
**Тэхніку вярнулі, кнігі – не, бо яшчэ негатовыя вынікі экспертызы.**

# 2. СІМВОЛІКА



Лявона Карповіча, краязнаўцу і калекцыянера з вёскі Луна на Гарадзеншчыне, пераследуюць за сімволіку: пагражаюць крымінальнай справай за паўторнае вывешванне сцяга.

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



Закрыты **прагляд спектакля** «**Пара-докс**» па матывах п'есы генія антытаталітарнай драматургіі Эжэна Іянеска «Ахвяры абавязку» з удзелам гарадзенскіх актораў адбыўся ў Гродненскім Цэнтры гарадскога жыцця.

**Артысты Перамогі**: канцэрт **Алеся Дзянісава** – гарадзенскага музыкі, паэта, кампазітара, заснавальніка гуртоў, без якіх немагчыма ўявіць беларускую рок-сцэну: «КальЯн», Dzieciuki і «Людзі на балоце». Канцэрт прысвечаны **Ігару Банцэру** – які правёў у турме 6 месяцаў, вытрымаў 17 дзён сухой галадоўкі і быў асуджаны на 1,5 гады абмежаваня волі. Цяпер ён адбывае пакаранне ў Віцебску.





**Аўкцыён**:
**Вольга Якубоўская** выставіла на дабрачынны аўкцыён карціну «Шпацыр па вольным Менску». Мастачка хацела б падтрымаць праекты, якія дапамагаюць навучанню беларускай мове.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Таццяна Нядбай, паэтка, намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра, аб праверцы, якую праводзіць Мінюст:**

***«Мы разумеем, што можам не датрымаць усіх тонкасцяў справаводства, але пры гэтым заўсёды гатовыя іх выправіць, і некаторыя гэтыя недахопы самі заўважалі і выпраўлялі. Калі Мінюст зацікаўлены ў тым, каб паспрыяць наладжванню такога справаводства ў ПЭНе, то мы з удзячнасцю паставімся да ўсіх рэкамендацыяў і выправім магчымыя недахопы, але падазраю, што мэта Мінюсту зусім у іншым.***

***Які шлях мы абралі? Мы працягваем нашу дзейнасць, і будзем працягваць яе, нават калі нас будуць імкнуцца пазбавіць легальнага статусу, бо тое, што мы робім, мы робім не дзеля Мінюсту, а дзеля краіны і грамадства, як бы пафасна гэта ні гучала, і ад сваёй місіі мы не збіраемся адмаўляцца».***

**Андрэй Дынько, галоўны рэдактара часопісаў «Наша гісторыя», «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!», затрыманы разам з іншымі супрацоўнікамі «Нашай Нівы»:**

***«Упэўнены, што не толькі я, але і мае калегі не вінаватыя ні ў чым, і гэта стане ўсім відавочна. На маю думку, мы проста закладнікі ў палітычным гандлі. Тыя, хто робяць «Нашу гісторыю», рабілі тое, што мусілі, выконвалі свае працоўныя абавязкі. Наш агульны прынцып быў і ёсць: «Наша ніва» не ўдзельнічае ў палітычных гульнях, а аб'ектыўна асвятляе працэсы, якія адбываюцца ў краіне і за мяжой».***





**Марыя Калеснікава** ў лісце з СІЗА:
***«Я шчыра захапляюся і ганаруся беларусамі. Ведаю, што многія стаміліся, і можа падацца, што вайна беларускіх уладаў супраць уласнага народа ніколі не скончыцца.***
***Але гэта не так. Мы перамаглі ўжо: перш за ўсё сваю абыякавасць – гэта самае важнае. Вельмі складана – выціскаць з сябе раба, па кроплі, але неабходна для нас, для нашай будучыні».***



**Аляксей Палуян** пра свой фільм «Кураж»:
***«Гэта спроба зразумець самога сябе: хто я такі, беларус? Мне падаецца, мы самі сябе не ведаем, не ведаем наш патэнцыял беларускі, нашыя межы, чаго мы рэальна вартыя. Я думаю, гэты фільм моцна б’е па нашым нацыянальным эгаізме, таму што ён паказвае, што здзек, які цяпер адбываецца над беларускім народам і нацыяй, ідзе вельмі далёка, выходзіць за межы 27 гадоў. Але гэты фільм таксама – партрэт маладой нацыі, якая прабудзілася ад сну і сказала ‘НЕ’»***
.

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Марыі Калеснікавай прысуджаная Штутгартская прэмія міру за мужную барацьбу з аўтакратычным рэжымам Лукашэнкі.



Еўрапейская рада пісьменнікаў асуджае напад на Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі ПЭН-цэнтр.

Сумесная заява, якая асуджае напад на беларускіх журналістаў і праваабаронцаў і патрабуе вызвалення затрыманых.

**The Freedom to Write**

Беларускі дзень на фестывалі «Горы літаратуры» з удзелам Святланы Алексіевіч, Насты Някрасавай, Змітра Вайноўскага і Андрэя Хадановіча адбыўся 17 ліпеня ў Польшчы.

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У ліпені 4 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі. Гэта Мікалай Сасеў, выкладчык танцаў (16 ліпеня); Іван Вярбіцкі, мастак і дызайнер (17 ліпеня), Аляксей Санчук, музыка (18 ліпеня) і Віктар Лосік, капірайтэр (22 ліпеня).**

**Адрасы для лістоў:**
**Аляксею Санчуку ды Мікалаю Сасеву:**
**Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А**

**Віктару Лосіку:**
**СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**

**Івану Вярбіцкаму:**
**ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1**

